Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярэд тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 17. Вільня, Серада, 23-га ліпня 1924 г. Год I.

## Пастанова Беларускага Нацыянальнага Камітэту у справе адзначэньня 10-х угодкау сусьветнае вайны:

Прыймаючы пад увагу, што:

сусьветная вайна, якая падняла народы проці народаў на крывавае змаганьне дзеля карысьці канкуруючых капіталаў ваяваўшых дзяржаў, зьяўляецца найвялікшым праступленьнем проці ўсяе людзкасьці, магчымым толькі дзякуючы існаваўшаму у дзяржавах пераможцах і пераможаных сацыяльнаму ладу;

што крывавая гэкатомба зусім не забясьпечыла людзкасьць ад магчымасьці новых—яшчэ больш крывавых войн у будучыне, і не разьбіла путаў няволі ўсіх народаў, падзеленых між дзяржавамі пераможцамі;

што ваенныя падзеі, якія разьвіваліся на тэрыторыі Беларусі, страшэнна зруйнавалі нашу Бацькаўшчыну, выкінуўшы міліёны беларускіх сялян з іх родных вёсак і засудзіўшы на доўгае бадзяньне і сьмерць на чужыне;

што мір ня даў міру нашай Зямлі, якая, парэзаная на кускі, па сягоньняшні дзень сплывае крывёй з незажываючых ран,—

Бел. Нац. Камітэт пастанавіў: **абвясьціць дзень 1-га жніўня г. г. днём народнае жалобы,** заклікаючы беларускае грамадзянства адзначыць яго сходамі, жывым і друкаваным словам, памінаньнем пагібшых і зборам ахвяр на беларускія нацыянальныя патрэбы.

20 ліпня, 1924 г.

### ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да Пана Міністра Ўнутраных Спраў у справе канфіскацыі беларускае часопісі „Сын Беларуса“ з 16 ліпня г. г. № 15.

Камісарам Ураду на м. Вільню сканфіскаваны № 15 „Сына Беларуса“ з 16 ліпня г. г. за стацьцю „Паміж двух агнёў“, які ніжэй прыводзім:

## Паміж двух агнёў.

Той нязвычайна яркі абраз грамадзкага і дзяржаўнага жыцьця Польскага гаспадарства, які разьвярнулі перад нашымі вачыма соймавыя прамовы ў справе дзяржаўнага бюджэту Польшчы,—з аднаго боку,—а правядзеньне ўрадавых законапраектаў аб ужываньні беларускае і украінскае мовы ў судзе, адміністрацыі, самаўрадах і школах,—з другога, — паказалі беларускаму народу абодвы абліччы таго двулікага Януса, якім зьяўляецца пануючая непадзельна ў Польскай Рэспубліцы польская буржуазія.

Рэч зусім зразумелая, што польская буржуазія стараецца апанаваць і падчыніць сваей уладзе ўсе галіны жыцьця гаспадарства. Бюджэтная дыскусія выкрыла, якія вялізарныя заваяваньні ў-ва усіх галінах упраўленьня ей удалося зрабіць.

Возьмем фінансы. Тут, як гэта паказала соймавая дыскусія, не астаецца ўжо ніякага сумліву, што фінансавая гаспадарка Польшчы ў аснову сваю паклала эксплёатацыю шырокіх масаў працоўнага народу, ускладаючы на працоўных львіную долю падатковых цяжараў, зусім нясумерную з іх заможнасьцяй,—затое багатшыя клясы, маючы львіную долю выгад, якія ім дае дзяржава, плацяць нясумерна мала ў дзяржаўны скарб.

А зямельныя справы? — О, тут бадай ці не найбольш ярка выяўляецца ўлада польскае буржуазіі, якая, ня гледзячы на прыняцьце Устаноўчым Соймам закону аб зямельнай рэформе, здалела зьвясьці гэту рэформу да нуля, бароначы недатыкальнасьці панскіх абшараў, а ідэю зямельнае рэформы падмяняючы вайсковым асадніцтвам.

Далей, дзейнасьць міністэрства ўнутраных спраў. Прамовы чуць што ня ўсіх выступаўшых з трыбуны паслоў згодна адзначалі клясавы характар органаў унутранага упраўленьня Польшчы: усе зьдзекі, біцьцё і катаваньне палітычных вязьняў у польскіх вастрогах—усё гэта перападае бадай выключна на людзей працоўных, з выняткам хіба „нацыянальных меншасьцяў“, якім дастаецца чуць-што ня роўна, ці то работнікам, ці сялянам, ці людзям інтэлігентных прафэсіяў, ці нават „інародным“ купцом і прамыслоўцам (жыдом!). А ў барацьбе працоўных з прадстаўнікамі капіталу адміністрацыя (паліцыя) пускае ў ход нават аружжа, каб зламаць апор працоўных, аказываны націску капіталу.

Урэшце—такая важная галіна дзяржаўнага жыцьця, як суд. Дык-жа і тут усе соймавыя фракцыі згодна прызналі (—некаторыя з іх—моўчкі!), што і суд адзначаецца партыйнасьцяй і далёкі ад ідэалу справядлівасьці, а бароніць ізноўжа буржуазію—уласьнікаў супраць працоўных.

Мы нядаўна пісалі, што дзяржаўная ўлада ў Польшчы—чыста клясавая-буржуазная. Сойм толькі вельмі ярка пацьвярдзіў гэта... А як беларусы пад Польшчай — гэта бадай выключна народ працоўны, дык ясна, што палітыка буржуазнае ўлады зусім натуральна аб'яўляе вайну беларусам, як працоўнай клясе.

Але ўлада, пакуль яна ідзе толькі пад штандарам сацыяльнае барацьбы з пралетарыятам і сялянскімі масамі, сустракае яшчэ сярод некаторых польскіх левых груп і партыяў рашучы адпор: тое, што дастаецца рабачаю беларусу, церпіць ад „сваей“ улады і работнік ці селянін — чыста польскае нацыянальнасьці. Зусім інакш выглядае справа, калі падыйдзем да пытаньня нацыянальнага. Тут ужо няма ніякае розьніцы паміж эндэкам Станіславам Грабскім, „вызваленцам“ Тугуттам і пэпэсам Недзялковскім! Тут ёсьць поўная згода, поўнае аб'яднаньне ўсіх польскіх партыяў, што сідзяць управа ад камуністаў.... Разьвіваньне дзікой ненавісьці паміж беларускім і польскім работнікам і селянінам, выклікаsucceedньне братабойчага змаганьня паміж працоўнымі розных нацыянальнасьцяў—вось прылажэньне на практыцы старога прынцыпу „дзялі і пануй“, вось аснова нацыянальнае палітыкі пануючае польскае буржуазіі і дробна-буржуазных польскіх „сацыялістаў“. Гэтак, побач з уціскам клясавым, беларускаму народу прыходзіцца цярпець роўна цяжкі, роўна балючы уціск і з боку польскага нацыяналізму.

Беларускі працоўны народ жыве паміж двух агнёў, з якіх, як кажуць, адзін пячэ, другі — паліць. Гэтак чыста тэорэтычны пагляд на тое, што *ня можа быць нацыянальнага адраджэньня без сацыяльнага вызваленьня нашага народу і наадварот*, знаходзіць поўнае пацьверджаньне на практыцы. А значыць, каб даць належны адпор захватніцкім імкненьням польскае буржуазіі і польскаму ваяўнічаму нацыяналізму, мы павінны, творачы нашы культурныя цэннасьці і узьвялічываючы нашу культурную моц і нацыянальную сьвядомасьць, *арганізовываць і нашу сацыяльную самаабарону*.

Гэта—наказ самога жыцьця. Гэта — адзіная дарога да нашае перамогі над варожымі сіламі.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра: 1) Ці ведама яму аб гэтым? 2) Ці маніцца зьняць арышт з № 15 „Сына Беларуса“?

Варшава, 18 ліпня 1924 г.

## Няудача рэканструкцыі Ураду.

Як ведама, лідэр „Вызваленьня“, пасол Тугутт, даўно ўжо рыхтуецца на міністра. Дагэтуль лічыўся кандыдатам на мін. унутр. спраў, але, як зьезьдзіў у Парыж, Лёндон і Рым, ды асабіста прывітаўся за руку з прэм'ерамі вялікіх дзяржаваў, дык, вярнуўшыся дамоў, стаўся ўжо адным з найлепшых у Польшчы знаўцаў эўрапэйскай палітыкі і моцным канкурэнтам мін. Замойскаму! Аставалася толькі перамагчы недаверые правіцы... „Адважны“ адказ свайму новаму „прыяцелю“, п. Пэнлевэ, на францускі пратэст проці польскага белага тэрору, а больш за ўсё — сакрэтнае супрацоўніцтва з эндэцкім шэфам Ст. Грабскім у „асобным габінэце“ міністэрства ўнутраных спраў над праектамі аб „правох“ меншасьцяў — аканчальна, як кажуць, разьбілі ў правіцы лёд недаверыя, і пан Тугутт разам з панам Ст. Грабскім атрымалі запрашэньне на становішчы міністраў.

Усё гэта было зроблена так спрытна, тайна, што аб гэтых „кроках“ свайго лідэра ня ведалі нават... яго выдатнейшыя сябры ў партыі! За тое-ж, калі даведаліся (не ад яго!), дык адразу сабралі сход клюбу „Вызваленьня“, на якім, у прысутнасьці п. Тугутта, пастанавілі выставіць кандыдатам партыі на становішча міністра заграмічных спраў п. Скжыньскага, як добрага фахоўца, за якога клюб можа ўзяць на сябе поўную адказнасьць...

На гэтым сходзе п. Тугутт многа казаў аб тым, што пагроза Польшчы з боку варожых да яе меншасьцяў загадывае ўсім „па-польску чуючым“ партыям аб'яднацца ў адзін фронт!

Але вызваленская лявіца слушна напомніла раптам пакахаўшаму правіцу прэзэсу, што якраз гэткія-ж самыя рэчы гаварылі год назад вуснамі п. Вітоса „пястоўцы“, якіх урэшце і праглынула, скампраматавала і палітычна зьнішчожыла „Хіена“.

Тады ўжо п. Тугутт ня вытрымаў і заявіў, што — калі так, дык ён выходзіць з партыі...

Клюб большасьцю галасоў пастанавіў... падзякаваць п. Тугутту за працу ў партыі.

Але на гэтым вызваленскі скандал ня скончыўся. Ведама-ж, што п. Тугутта абодва браты Грабскія запрашалі да ўраду **не як асабіста п. Тугутта** (— бо які ж ён запраўды „фаховец“!?), але **як прадстаўніка каля сотні галасоў у Сойме...** Зразумелі і таварышы п. Тугутта па партыі, што, таргуючыся з Грабскімі і з Хіенай, п. Тугут маніўся за свае міністэрскае месца **заплаціць якраз гэтымі іхнімі галасамі**, г. значыць: — **ня пытаючыся іх, прадаваць іх „Хіене“**.

Дык, калі ўсё гэта выкрылася, і ў уласнай партыі п. Тугутт не знайшоў „прызнаньня“, дык уся міністэрская авантура вызваленскага лідэра разьляцелася, як дым. П. Тугутт **мусіў адмовіцца ад мініст. партфэлю**, што ён, сьцяўшы зубы, і зрабіў.

Трэба ведаць і тое, што асабліва ядавіта кусаў прэзэса Тугутта яго „калега“ па людоваму аб'яднаньню, пас. Домбскі, даўнейшы канкурэнт п. Тугутта на лідэрства, які, як ведама, лічыць „спэцыялістам“ па заграмічнай палітыцы **сябе, але зусім ня Тугутта.**

У выніку ўсяго гэтага, як мы ўжо ведаем, партыя „Вызваленьне“ пачала раскалывацца на групы.

## Беларусы у польскіх партыях.

Тое палажэньне, у якое папалі беларусы-вызваленцы ў сувязі з ясна выявіўшайся процібеларускай палітыкай партыі „Вызволене“, павінна быць добрай навукай для ўсіх беларусаў, якія дзеля тых ці іншых прычын шукаюць сабе прыпыну ў польскіх арганізацыях з нацыянальнай ахварбоўкай.

Ня раз і ня два пісала беларуская прэса аб тым, што нацыяналізм у польскім грамадзянстве ўкараніўся гэтак крэпка і глыбака, ды з прычыны трыумфу польскага нацыянальнага ідэалу: адбудовы сваей дзяржавы — набраўся гэткіх благіх уласьцівасьцяў, што заглушыў у польскіх палітычных дзеячоў усё людзкае, усё, што выходзе па-за межы інтарэсаў іх вузкіх дзяржаўных граніц.

Мімаволі раўнуем адносіны колішняе расейскае лявіцы да палякоў з сучаснымі адносінамі польскіх левых партыяў да беларусаў. „Палянафільства“ — гэта была галоўная адзнака, пробны камень для кожнага расейскага дэмакрата і паступоўца. „Беларусаедзтва“ зьяўляецца цяпер га-

# ХРОНІКА.

**Рэзалюцыя Беларускага Нацыянальнага Камітэту у справе языковых законаў** з 20 ліпня г. г.: „Бел. Нац. Кам., разважыўшы становішча Бел. Пас. Клюбу ў справе праведзеных у Сойме польскім урадам языковых законаў (аб карыстаньні беларускай мовай у судох, адміністрацыі, самаўрадах і школе) і бачучы ў гэтых законах грубае нарушэньне правоў беларускага народу ў Польшчы, забясьпечаных Міравымі Трактатамі і асноўнымі законамі Польскае Рэспублікі, а такжа лічучы, што пры сучасным складзе польскіх судоў і адміністрацыі агульнай і школьнай у Заходняй Беларусі нават забясьпечаны ў сказаных законах мінімум ня будзе зьдзейсьнены на дзеле,—прызнае, што становішча ў гэтай справе Беларускага Пасольскага Клюбу было правільнае і адпавядае ў поўнай меры настраеньням і паглядам беларускага грамадзянства“.

**Нават і „прыяцелі“ абураны!** Пад той час, як усе польскія партыі ўтварылі адзіны нацыянальны фронт у справе законаў аб нацыянальных меншасьцях, — беларусы бяз розьніцы партыяў і кірункаў рэзка асуджаюць гэтыя законы.

У Прэзыдыуме Бел. Нац. К-ту ў Вільні на засяданьні 20 ліпня было заслухана цікавае пісьмо ў гэтай справе, прысланае з Горадні галоўнымі дзеячамі партыі так-званых „Актывістаў“, якая заўсёды йшла поплеч з польскім урадам і на выбарах у Сойм і Сэнат змагалася з беларускім сьпіскам № 16. Вось гэтае пісьмо:

*Да Беларускага Нацыянальнага К-ту ў Вільні.*

Гэтым маем гонар давясьці да ведама Б. Н. К. у Вільні, у сувязі з запытаньнямі, паступаючымі да нас з розных мейсц, што ў справе трох уставаў, праведзеных праз Сойм, бяз учасьця беларускіх прадстаўнікоў у т. з. камісіі экспэртаў, аб языковых палягчэньнях у судзе, школе і адміністрацыі на „Kresach“, мы і тыя, што з намі, зусім салідарны з пазіцыяй Бел. Соймавага Клюбу у гэтай справе, бо гэтыя ўставы, замест паправіць адносіны паміж беларусамі і палякамі, йшчэ больш папсуюць і без таго ўжо зусім немагчымае палажэньне, выкліканае тактычнымі абмылкамі польскіх партый на „Kresach“, — але пэўна, што пасьля гэткіх уставаў хутка перад польскай палітыкай на чарзе дня зьявіцца справа аўтаноміі — уставы адназначнай пад той ці іншай назвай, бо за мінулыя гады абмылкі былі дапушчаны праз указанную палітыку вялізарныя.

**Е. Міткевіч.**
**Я. Шурпа.**

*17. VII. 24. Горадня, Мастовая 9.*

**Справа пасольскіх мандатаў па сьпіску 16.** Як ведама, два беларускія паслы: Баран—з Горадні і Якавюк—з Бельску, засуджаныя ў Беластоцкім працэсе, утрацілі свае пасольскія мандаты, і Баран знаходзіцца ў вастрозе, а Якавюк—за граніцай. У сьпісках кандыдатаў беспасярэдна за імі стаяць прадстаўнікі жыдоў. Аднак, паміж выбарнымі камітэтамі беларускім і жыдоўскім была перад выбарамі зроблена ўмова, што ў прыпадку утраты мандату паслом данае нацыянальнасьці яго месца займае кандыдат **тэй жа нацыянальнасьці.**

У сувязі з гэтым Цантральны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў (№ 16) апублікаваў гэткае абвяшчэньне:

„Сябры Ц. К. Блёку Нацыян. Меншасьцяў, разважыўшы пытаньне аб замяшчэньні мандатаў па сьпіску № 16 у Ковельскім, Горадзенскім і Бельскім акругох, устанаўліваюць яшчэ раз, што паводле зробленае умовы гэтыя мандаты належацца прадстаўніком тых нацыянальнасьцяў, якія іх мелі да пазбаўленьня паслоў права выпаўненьня пасольскіх абавязкаў.

„Цантральны Выбарны Камітэт заклікае дзеля гэтага найбольш рашуча п. п. Файнштэйна, Бульву і Брянскага уступіць пяршынства прадстаўніком адпаведных нацыянальнасьцяў. Камітэт пазываецца пры гэтым на пастанову жыдоўскае фракцыі з 1 мая г. г. і прызывае памянёныя асобы ўраз-жа выпаўніць гэтае дамаганьне“.

Памянёныя асобы — жыдоўскае нацыянальнасьці, а мандаты належацца украінцу і беларусам. Бульва і Брянскі павінны зрачыся пяршынства на карысьць беларусаў: Сініллы — па Барану (Горадня) і Якімовіча—па Якавюку (Бельск).

**Яшчэ мала!** „Для ўзмацаваньня бясьпечнасьці“ на „Крэсах Усходніх“ Варшаўская Камандантура дзяржаўнай паліцыі вярбуе „асьпірантаў“—для павялічэньня ў нас паліцыі! Ад кандыдатаў быццам вымагаюць нават „навуковага цэнзу“, — „ня менш, як 3-х клясаў“ (можа і ня больш?..) і „знаёмства з ладам Польскае дзяржавы (ці—ня Польскай Канстытуцыі?!.) і адміністрацыі“...

Прыняты ўжо шмат кандыдатаў, якія пасьля кароткіх (6-тыднёвых?) паліцэйскіх курсаў „атрымаюць агромную ўладу“ і будуць высланы на нашыя многапакутныя „Крэсы“...

**Рэгістрацыя „обцокраёўцаў“ у Вільні.** Камісар м. Вільні загадаў новую агульную рэгістрацыю „обцокраёўцаў“ у Вільні. — Усе, хто ня мае сцьверджанага „обывательства“, ці ня можа сцьвердзіць яго, павінны асабіста явіцца, каб паставіць новы штэмпэль на свой „довад асабісты“. Хто мае „карты пабыту“, павінны датаго яшчэ ўнясьці аж 24 злоты, а хто мае пашпарты „азылю“ — 12 злотых. Хто ня зьявіцца на рэгістрацыю, будзе высланы з Польшчы.

Вельмі цікава, што п. Ішора, заступнік Камісара Вімбора, даводзіць у інтэрвью ў расейскай газэце „Віл. Утро“, быццам гэтая рэгістрацыя робіцца ўладай дзеля дабра гэтых „обцокраёўцаў“, бо на іх пашпартах будзе пастаўлены надпіс, які дасьць ім магчымасьць вольна езьдзіць па Польшчы. Так кажа добры сэрцам п. Ішора... Але вось больш „суровыя“ варшаўскія газэты падаюць, што якраз віленскія „обцокраёўцы“ ня будуць карыстацца (ня гледзячы на дабратў п. Ішоры!) з дабрадзействаў гэтага надпісу, бо ў Віленскім Вокрузе, як і ў іншых крэсавых ваяводзтвах, ня будзе дазволены вольны рух „обцокраёўцаў“...

Віленскія „обцокраёўцы“, заплаціўшы па 24 злоты, і надалей дзеля падарожы павінны будуць браць спэцыяльнае дазваленьне, ці „пшэпустку“, толькі ўжо не ад Камісара, але ад самага п. Дэлегата Ураду.

**На жаданьне п. вояводы!** Сучасная праваслаўная царкоўная ўлада сьлепа выпаўняе ўсе загады польскае адміністрацыі. Гэтак у № 21—22 „Вѣстн. Правасл. Митрополіи въ Польшѣ“ ад 6 ліпня г. г. чытаем:

23 мая № 1567. Настаяцель прыходу Клевікі, сьвяшчэньнік а. Платон Панько, перамешчаны **па трэбаваньню п. Беластоцкага Ваяводы і з яго згоды** на становішча 2-га сьвяшчэньніка ў с. Ялоўку, Ваўкавыскага пав.

24 мая № 1588. Іераманах Савва Гаўрылюк **па трэбаваньню Беластоцкага Ваяводы** адсунуты ад кіраўніцтва Супрасльскім прыходам з пераводам яго ў лік брацii Жыровіцкага манастыра.

Аб'ясьненьні — лішнія!

**Ізноў бандыты!** У начы з 18 на 19 ліпня 30 бандытаў з вінтоўкамі, рэвальвэрамі, ручнымі гранатамі і кулямётамі напалі на м. Вішнеў, Валожынскага пав., Наваградзк. ваяв., абрабавалі багацейшых жыхараў і крамы і павязьлі зрабаванае з сабой на 5 мястэчковых падводах. Кажуць, быццам нападам кіраваў арганізатар нядаўных нападаў на Крывічы і Гарадок.

# Весткі з вёскі.

## Жыцьцё чыгункі.

*Віленская дырэкцыя, Баранавіцкай дыстанцыі, Гарадзейскага адступу.*

Віленская дырэкцыя прыслала да нас нядаўна майстра з Галіччыны. Вось паслухайце, што за парадкі ўводзіць у нас гэты пан. Як вядома, у кожнага служачага-чыгуншчыка ёсьць каля чыгункі невялічкі кавалак сенажаці і орнае зямлі. Некатарыя сенажаці служачыя зрабілі з орнага поля, сеючы на ім розныя кармавыя травы. За гэтыя сенажаці яны плоцяць у казну вядомую лічбу злотых. Але сёлета новаму майстру прышло ў галаву адабраць сенажаці ў служачых, якім па праву прыналежаць гэтыя сенажаці, усё роўна, як і ўсякая другая маемасьць у хаце. Адбіраючы іх у служачых майстар аддае іх на часьці касіць сялянам. Скасіўшы сенажаць селянін аддае часьць майстру (майстар перапрадае салдатам, або жыдам), а рэшту бярэ сабе.

Што-ж астаецца служачым?...

А служачым астаецца вывясьці з хлева астатнюю кароўку на рынак. Бо самжа ён ня ляжа ёй пад мызу. Цяпер служачыя гутараць, быццам то майстар хоча адабраць у іх і пасевы, якія толькі ёсьць на казённай зямлі...

Кажуць, што і жаліцца няма куды, бо дырэкцыя ведае, каго і куды пасылае! Пры тымжа майстар для дырэкцыі—гэта ўсё роўна, што для чалавека рука. Нельга чалавеку сказаць, калі ён б'ецца: „Прымі свае рукі, каб яны ня біліся“...

Аднак, я бяру на сябе сьмеласьць давесьці аб гэтым да ведама дырэкцыі. Бо відаць, што яна роўна нічога ня ведае, што у нас тут робіцца. І з свайго боку я раджу служачым прасіць нашых паслоў злажыць у Сойм інтэрпэляцыю п. міністру чыгунак. Пры тымжа, ня гледзячы на тое, што ўсюды заведзены 8 гадзінны дзень працы, у нас служачы працуе па 9 гадзін. А праца, я ўжо пісаў, самая катаржная. **А. М. Санеўскі.**

## Крэўскі пісар аратарствуе!

**м. Крэва**, Ашмян. пав.

Хто прыходзе ў гміну чаго-небудзь, то Крэўскі пісар пачынае гаварыць: хваліць паноў, а ганіць мужыкоў. Вось ён казаў сялянам, што ў Сойме паны дамагаюцца, каб садзіць тытун, але мужыкі, якія знаходзяцца ў Сойме, то процiў, — і шмат якіх глупстваў гаварыў і гаворыць.

Але нам, сялянам - беларусам, ня трэба верыць і слухаць падобных глупстваў.

Паведамляем Б. Шк. Раду, што сяляне дамагаюцца беларускіх школ; вось такія вёскі: 1) вёс. **Доўгілог**, Ашмянскага павету, дзяцей 47. Дамагаецца беларускай школы, дый інакшай ня хоча. — 2) вёс. **Клочкава**, Ашмянск. пав. Дамагаецца бел. школы; дзяцей 52. — 3) вёс. **Куты**, Ашмян. пав. Дамагаецца бел. школы; дзяцей 42, — і другія вёскі хочуць, каб школы былі на роднай мове і каб дзеткі не калечыліся.

**Н. Т.**

# З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Чацьвертыя ўгодкі.

13 ліпня Радавая Беларусь сьвяткавала чацьвертыя ўгодкі вызваленьня ад польскіх войск. Сэсія Беларускага Цантр. Вык. Камітэту ў адумыснай адозьве да насяленьня Беларусі кажа паміж іншым: „Радавая Беларусь ня думае мяшацца у ўнутраныя справы Польшчы, але ня можа прайсьці міма мукаў братоў, якія пакутуюць пад ярмом польскіх шавіністаў. Сочучы за кожным крокам, мы ня можам не расказаць аб гэтым работнікам і сялянам вольнае Беларусі“.

## Паўнамоцнік ССРР у Менску.

Паўнамоцным прадстаўнікoм ССРР на Беларусі назначаны Асаткін.

## Стан фізычнае культуры ў Беларусі.

У Менску ў сучасны момант створана 35 гурткоў і ячэек фізкультуры, якія налічваюць разам са школамі каля 10.000 сяброў.

Агульны лік інструктароў па Менску дасягае 35, па ўсей БСРР — 67.

У Менскім павеце праца вядзецца пакуль што ў м. Койданаве.

Ў іншых мясцох лічбы на фізкультуры выяўляюцца гэтак:

Віцебшчына — 27 гурткоў, сяброў разам са школамі — 3.000;
Барысаўскі пав. — 600 чал.;
Чэрвенскі — 1.150 (ёсьць спэцыяльны дом фізкультуры);
Бабруйскі — 1.500 чал.;
Аршанскі — 290 чал.;
Полацкі — 705 чал.;
Бачэйкаўскі — 278 чал.;
Рагачоўскі — 300 чал.

Адбыўшаяся гэтымі днямі ўсебеларуская нарада саветаў фізкультуры намеціла рэальны плян пашырэньня працы.

# Наша пошта.

**Марыі Жук.**—2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.
**Аляксандру Рабчуку.**—4 зл. атрымалі. Газэту высылаем.
**гр. Карабею.**—3 зл. атрымалі. Дзякуем.
**Марку Саўцы.**—3 зл. 35 гр. атрымалі. Дзякуем.
**К. Гарошко.** — 2 зл. атрымалі. Адрас пераменяем.
**Аляксандру Грыцкевічу.**— 3 зл. атрымалі. Газэту высылаем.
**Яну Бучы.**—2 зл. атрымалі. Дзякуем.
**Якубу Шкляруку.**—2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.



Рэдактар-Выдавец М. Шыла

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.